# Супольнасьць №5

1989

БЮЛЕТЭНЬ КААРДЫНАЦЫЙНАЕ РАДЫ КАНФЭДЭРАЦЫІ БЕЛАРУСКІХ СУПОЛАК

КАСТРЫЧНІК-ЛІСТАПАД


## * Каталіцкае біскупства

Папа Рымскі Іаан Павел нядаўна прызначыў Тадэвуша Кандрусевіча апостальскім адміністратарам Менска ў сане біскупа з паўнамоцтвамі на ўсю савецкую Беларусь.

Гэтае прызначэньне крыўднае таму, што, як паведамляе Вера Рыч, Кандрусевіч зьяўляецца членам этнічнай польскай меншасьці на Беларусі, а новыя патрыятычныя рухі Беларусі садзейнічаюць увядзеньню беларускай мовы ва ўсеагульны ўжытак, у тым ліку і набажэнствы.

Аднаўленьне каталіцкага біскупства — гэта адна з галоўных падзеяў па рэалізацыі праграмы БНФ "Адраджэньне", яе разьдзелу аб рэлігіі і свабодзе сумленьня. Па гістарычных прычынах амаль усе каталіцкія сьвятары на Беларусі — палякі, у асноўным у гадох /айцец Кандрусевіч, якому 43 гады, выключэньне/. Беларусы не адмаўляюць палякам весьці набажэнствы па-польску. Праграма Фронту сьцьвярджае, што беларусізацыя рэлігійнай дзейнасьці не выключае магчымасьці карыстацца іншымі мовамі ў рэлігійнай практыцы, калі гэтага патрабуе этнічны склад вернікаў. Але польскія сьвятары на Беларусі ў асноўным лічаць, што паляк — гэта каталік, а каталік — паляк, і што ўсе беларускія каталікі — проста палякі, што забыліся пра свае нацыянальныя карані.

/працяг на с.12/

## Застойнае танга

Прэса піша: "У Тбілісі о'кеу
Не было ніякіх страшных падзей,
Так. Рыдлёўкамі ганялі народ
Ды вадзілі карагод."

Мірны мітынг жыхары правялі,
Ціха ў горад батальёны ўвайшлі.
Каб ніхто не забываўся у нас
На парадак і указ.

Прыпеў:
Танкі, у Тбілісі танкі,
Вайскоўцы едуць на гулянкі,
Блішчыць сьвяточная браня,
Сталіца ў дыме і агнях.
Зірні налева,
Зірні направа,
Якая моцная дзяржава!
Равуць машыны, о-го-го!!!
Бо як танго, то ўжо танго.

У прыбалтаў намаганьні адны:
Незалежнасьці жадаюць яны,
Гэты іхны экстрэмісцкі хаўрус
Падрывае наш Саюз.

Прыпеў:
Танкі, ля Рыгі танкі
.....................

Сьпіць слуга народу, бачыць ён сон,
Як хапае нефармалаў у палон,
Сьніць ён росквіт сталінісцкіх ідэй
У Вандэі ўсіх Вандэй.

Прыпеў:
Танкі, у Менску танкі,
.....................

словы В.Яфіменкі і С.Іцэвіча
мелёдыя мажорнага танго

## • Нацыянальны космас беларусаў і літаратура •

Кожная нацыя валодае сваёй гэнэтычнай матрыцай мысьленьня, сваім вобразам сьвету. Розныя нацыі гавораць на розных мовах, а мова — форма праяўленьня сутнасьці. У прыгожым пісьменстве, дзе мова — першаэлемент, вобразы-матывы, вобразы-матывы, вобразы-топасы, сымбалі таксама сьведчаць пра мысьленьне нацыі, сьцьвярджаюць яго. Для пісьменьнікаў адной нацыі характэрны пэўныя моўныя парадыгмы, зьвязаныя з характарам духоўнасьці. У той жа час літаратура праз мову і іншыя кампаненты культуры зьвязана з прыродай. Бясспрэчна ж, што паміж геаграфічным асяродзьдзем і нацыянальнай культурай існуе ўзаемасувязь. Асяродзьдзе ўплывае на фармаваньне этнасу і яго культуры, а з другога боку, этнас сам перарабляе асяродзьдзе і прыстасоўвае яго да сябе.

Сёньня мы гаворым пра нацыянальнае Адраджэньне — ужо ня першае на Беларусі. Праз эпоху, праз цэлую культурную фармацыю "нацыянальнае адраджэньне" прайшлі ўсе славянскія краіны. На гэтым шляху яны выпрацавалі сінтэтычныя формы мысьленьня і культуры, якія адпавядалі іх задачам, магчымасьцям і традыцыям.

У створаных нацыянальным адраджэньнем вобразах сьвету ў нацыянальных катэгорыях адлюстроўваўся час; як нацыянальнай бачылася і прастора. Прасочым сувязь "нацыянальнай прасторы" з характарам паэтыкі беларускай літаратуры.

У кожнай нацыі свая сістэма каардынат у поглядах на сьвет, і залежыць яна ад умоваў фарміраваньня таго ці іншага народу: перш за ўсё ад геаграфічнага становішча, клімату, флоры, фаўны, а таксама ад гістарычных падзей, што адбываліся на тэрыторыі, заселенай пэўным этнасам. Паняцьце нацыянальнага космасу перш за ўсё ўключае ў сябе прасторавую культуру народу. Нацыянальны пейзаж — гэта ў многім вобраз і форма прасторавага існаваньня. Прасторавая сетка каардынат праходзіць, як праз прызму, праз сэрца і розум мастака. Мастак і пазнае нацыянальны космас, і стварае яго. Бяз нашых клясыкаў мы б так поўна нацыянальны космас не ўсьведамлялі.

Такім чынам, разумець нацыянальны космас неабходна шырока — як прыроду, як нацыянальную культуру, тое асяродзьдзе, у якім жыве беларус, і тое сьветабачаньне, зь якім ён жыве. Сьветабачаньне адлюстроўвае літаратура. Усё тут зьвязана. Нацыянальны космас і разумеецца як узаемасувязь усяго з усім, матэр"яльнага з духоўным.

Адам Міцкевіч, які апяваў беларускія краявіды, пісаў: "Уздоўж сталі дрэвы рад ля рада. І зацянялі плошчу поля". Ул.Караткевіч разьвіў яго думку: "Самы тыповы беларускі пейзаж — поле, а за ім лес".

Дацэнт БДУ Т.Шамякіна

/працяг на с.2/

Рэдакцыя "Супольнасьці" віншуе Рускую Праваслаўную Апостальскую Царкву Беларусі і ўсё беларускае сьвяшчэнства, высокапрэасьвяшчэньнейшага Філарэта — мітрапаліта Менскага і Гарадзенскага, Патрыяршага экзарха Беларусі, Старшыню Аддзела зьнешніх царкоўных зносінаў, пастаяннага члена Сьвяшчэннага Сінода, а таксама ўсіх праваслаўных вернікаў Беларусі з узвышэньнем статуса беларускай Царквы да ўзроўню Экзархата.

згіне прымус, калі запануе вольная творчая асоба. Прымус не абараніць прыватнай уласнасьці і ня зьнішчыць яе. Добры прыклад зноў — Расея. Тамака зьнішчана ня толькі ўласнасьць на нярухомасьць, а амаль і самая нярухомасьць, затое ўласнасьць на рухомыя рэчы яшчэ павялічылася. Ні ў адной старонцы жыцьцё чалавека не раўняецца некалькім фунтам хлеба, а ў Расеі гэта — факт.

Адсутнасьць прымусу павінна пранікнуць увесь грамадзкі быт: палітычны, эканамічны, маральны бакі жыцьця, бо толькі з гэтай умовай знойдзе свой выраз творчасьць як асобы, так і сацыяльнага цэлага. У гэтым — наша надзея, у гэтым нагад на прадсьвет, і запраўдны жыцьцёвы кірунак.

Не адразу ўсяго дасягнуць. Не адразу выхаваць творчую адзінку. Будучына належыць да творчай асобы, але яшчэ доўгія гады "мёртвыя будуць хаваць сваіх мерцьвякоў". І нечалавечы ўціск, і неміласэрныя рэвалюцыі, і паўстаньні павінны яшчэ перанесьці чалавецтва. Тое, што існуе цяпер: прымусовае гаспадарства, урады, цьвёрды закон, турма, кара — есьць вынік чалавечай, грамадзянскай нятворчасьці. Гэта ўсё згіне не пад прымусам, ня будзе зруйнавана сілай, а будзе зруйнавана далейшай чалавечай творчасьцю. Бо калі сілай зьнішчыць існуючы парадак, дык нятворчасьць сучаснай чалавечай масы створыць сабе назаўтра яшчэ горшыя кайданы, турмы і мукі. Такі досьлед усіх рэвалюцыяў старавечнасьці і сучаснасьці.

Тыя погляды, якія тут выяўлены, шмат каму здадуцца анархізмам . Ад гэтае шыльды, як ад кожнае іншае вызначаючае формы, трэба адмовіцца, бо яна мае ўжо свой перакручаны жыцьцёвы зьмест, і замест развагі лепей прывесьці такую расейскую частушку:

"Анархистик утащил
Полушубок теткин,
Ах, тому ль его учил
Господин Кропоткин?"...

Гэтыя эскізы мелі на мэце не правядзеньне якіх-небудзь групавых поглядаў, а выяўленьне тае істоты жыцьця, якая існавала ад самага пачатку чалавецтва і рабіла спробы зрэалізавацца ў розных кірунках: эльлінскай культуры, хрысьціянсцьве, гуманізьме, у дэмакратычным і сацыялістычным рухах, паміж іншым і ў анархізьме, покуль усе гэтыя рухі не зьмярцьвіла застылая форма. На шляху чалавечай творчасьці вырастала перашкода у постаці хочучай валадаць формы. І форма захапляла жыцьцё, дыктавала свае ўмовы. А чалавечая душа рвалася з яе кайданоў, хацела спарадкаваць жыцьцё так, як казала ўласнае сумленьне, хацела ісьці за сваімі ўласнымі імкненьнямі, чула, што гэта — непатрэбна "зьвязваць ярма цяжкія і незнасімыя і ўскладаць на плечы людзям". І ўцякала ад гвалцячага жыцьця, шукала свайго ратунку.

І, як вызваленьне, яшчэ на зары чалавецтва, загучэлі чароўныя вечна-прыгожыя, вечна-жывыя словы Бога аднаўленьня, Бога ўваскрасеньня:

"Прыходзьце да мяне ўсе стружданыя і пакрыўджаныя і Я спакою вас. Бярэце ярмо маё на сябе і навучэцеся ад мяне; бо я — сьціплы і сьмірны сэрцам, і знойдзеце спакой душам вашым. Бо ярмо маё — добра, і цяжар мой лёгкі."

Так у глыбіні вякоў знайшло свой выраз імкненьне здаровай чалавецкай душы ісьці ўласным шляхам да боскае творчасьці, скінуўшы ланцугі тугі і пакуты. І цяпер, прабуджаныя да творчасьці народныя масы, чуючы ў сабе прысутнасьць творчай Міравой душы, з рашучасьцю кажуць: "творачы — зруйнуем".

**РАДЫЁ ВАТЫКАН БЕЛАРУСКАЯ ПРАГРАМА**

| Час грынвіцкі | Час на Беларусі | Хвалі ды адпаведныя частоты | |
|---|---|---|---|
| 16.45 | 20.45 | 49 м. | 6.185 кГц |
| | | 31 м. | 9.755 кГц |
| | | 25 м. | 11.717 кГц |
| | | с.х. | 1.611 кГц |
| 03.45 | 07.45 | 41 м. | 7.250 кГц |
| | | 31 м. | 9.755 кГц |
| | | 25 м. | 11.740 кГц |

*З новых перакладаў.*

# ПСАЛЬМ

## часовы дастатак бязбожных

I. Спакуса пазайздросьціць бязбожнаму

Які добры Бог да Ізраіля,
да тых, хто сэрцам шчыры!
2. А я — ледзь ногі мае не пахіснуліся,
ледзь падэшвы мае не пакаўзнуліся —
3. я ліхім быў пазайздросьціў,
як убачыў дастаткі бязбожных.

2. Таямніца дастаткаў у бязбожных
4. Бо няма ім цярпеньняў да самае сьмерці,
і сіла моцная ў іх.
5. На працы людзкой іх няма,
і разам зь людзьмі яны ўціску не зазнаюць.
6. Вось таму іх нашыйнік ёсьць пыха,
а іх строі — насільле.
7. Вылазяць ім вочы ад тлушчу,
жаданьні іх сэрца збыліся,
8. сьмяюцца яны з усяго; зласьліва паклёпы
наводзяць;
ганарыста гавораць.
9. Вусны свае ўзносяць да неба,—
а іхны язык па зямлі валачэцца.

3. Нараканьне праведніка
10. Таму і зьвяртаюцца людзі да Яго,
і п"юць ваду поўнаю чашаю
11. і кажуць: "Ці ведае гэта Бог?
і ці мае Ўсявышні ведамасьць,
12. як вось гэтыя грэшнікі пясьцяцца на гэтым
сьвеце
і багацьці свае памнажаюць?"
13. /І сказаў я:/Ці ж не дарма ачышчаў я сэрца
маё
і ў нявіннасьці вымыў рукі мае,
14. і ўвесь дзень я цярплю удары,
і кожнае раніцы кару прымаю?

4. Высьвятленьне таямніцы
15. Калі б я сказаў: Буду так гаварыць, як яны,—
дык здрадзіў бы роду сыноў Тваіх.
16. І задумаўся я, як зразумець гэта;
але цяжка яно ў вачах маіх,
17. пакуль не ўвайшоў я ў сьвятыню Божую,
і не зразумеў іх канца.
18. Праўда,—на коўзкіх шляхах паставіў Ты іх,
і скінеш у провішчы іх.
19. Як раптоўна яны ўвайшлі ў спустошэньне,
згінулі, зьніклі ад страхаў!
20. Як сном пасьля абуджэньня,
так Ты, Госпадзе, іх разбудзіўшы,
зьнішчыш іх мроі.

## INFORMACIJA




**Купите рысака!**

На паіменнае галасаваньне была пастаўлена прапанова ўключыць пытаньне пра Артыкул 6 Канстытуцыі СССР у парадак дня Зьезда народных дэпутатаў:

Прагаласавалі: "ЗА"
Бальбасаў В., Галаўнёў В., Дудко Т., Ігнатовіч М, Кісялёва В., Кучэйка А., Матэўшук З., Мамотава Т., Шацько П., Якушкін В.

Прагаласавалі: "СУПРОЦЬ"
Лучанок І., Калашнікаў В., Міласердны А., Сямуха Ул,, Сакалоў Я., Таразевіч Г., Фясько Ў А.

"УСТРЫМАЛІСЯ"
Піскуновіч Г.

У галасаваньні ня ўдзельнічалі:
Дубко, Лабуноў, Бабрыцкі.

/пачатак на с.1/

Папа Рымскі меў у некаторай ступені абмежаваны выбар кандыдатаў. На Беларусі ёсьць толькі 2 каталіцкіх сьвятара-беларуса, і адзін прыход,дзе сьвятар-літовец вывучае беларускую мову, як гэтага жадаюць вернікі. На пачатку 70-х гадоў Папа Павел У1 імкнуўся стварыць беларускае біскупства, але кандыдат на гэтую пасаду, Уладзіслаў Чарняўскі, не спадабаўся савецкім уладам. Але калі б і гэтая забарона была зьнятая /а беларускую партыю і урад перабудова закранула менш, чым дзе-несудзь яшчэ у СССР/, то ўсё роўна Чарняўскаму 79 гадоў, і ён вельмі стар для такой пасады. Беларусы-каталікі, мусіць, ведалі, што яны наўрад ці атрымаюць біскупа-беларуса. І шмат хто адчуваў бы большую бясьпеку, калі б біскупам быў літовец ці латыш, а не паляк.

Аднак партыя і ўрад Менску аддаюць перавагу менавіта паляку. Афіцыйна неспакой патрыятычным адраджэньнем на Беларусі вымусіў беларускае кіраўніцтва разарваць старыя гістарычныя сувязі зь Літвой, дзе нацыянальны рух вельмі моцна. А літоўскі біскуп на Беларусі ўзмацніў бы зьблі - жэньне дзьвюх нацыяў. А паляк можа раскалоць прыхільнікаў беларусаў-каталікоў, сярод якіх шмат членаў "Адраджэньня".

Задача новага біскупа вельмі далікатная. І спосаб ягонага прызначэньня не аблегчыў ягонай місіі. Ватыкан меў размовы з маскоўскім і менскім кіраўніцтвам, як гэта прынята рабіць, але, нават дзеля ветлівасьці, не пракансультаваўся ні з водным зь беларускіх царкоўных дзеячоў ні ў самой Беларусі, ні па-за яе межамі. Магчыма, не было ніякіх спробаў пагутарыць зь лідэрамі "Адраджэньня" наконт таго, каго яны б лічылі мэтазгодным мець. Ватыкан, канешне, ня меў ніякіх абавязкаў рабіць такіх захадаў. Але, улічваючы цяперашнюю сытуацыю на Беларусі, здаецца, што прызначэньне адбылося са значным недахопам дыпляматычных тонкасьцяў.

Моўнае пытаньне набыло дадатковую важнасьць на Беларусі пасьля скасаваньня лацінскіх месаў Ватыкана і іхняе замены ня мовы 10-мільённага беларускага насельніцтва, а мовай 50-тысячнае

паводле часопіса THE TABLET 12 August 1989

польскае меншасьці, члены якой вырашылі застацца на Беларусі ў час міграцыяў 40г.

Польская акупацыя 1919-39гг. "крэсаў усходніх" і стаўленьне шматлікіх польскіх сьвятароў да мясцовых беларускай і украінскай меншасьцяў былі нешчасьлівым перыядам, калі выкарыстоўваньне беларускае мовы ў царкве паступова прыгняталася, а беларускамоўныя сьвятары высылаліся ў заходнюю Польшчу ці ў кітайскія місіі.

Акрамя таго, у час, калі аспрэчваецца справядлівасьць пагадненьняў 1939 г. Гітлера і Сталіна, усялякі напамін аб адраджэньні усходніх патрабаваньняў Польшчы прывёў бы да сур"ёзных апаскаў беларусаў, якія імкнуцца адрадзіць афіцыйнае карыстаньне беларускай мовай.

Вядома, што біскуп Кандрусевіч няшырака вядомы сярод беларускамоўных сьвятароў і каталіцкіх прыхільнікаў "Адраджэньня". Таксама вядома, што выкарыстаньне 60 "польскімі" сьвятарамі польскай мовы, якое працягваецца і сёньня, не прываблівае маладых каталікоў да касьцёла.Трэба спадзявацца, што аднаўленае біскупства будзе ўважлівае да патрэбаў павялічваючайся колькасьці маладых вернікаў, якія ня мовяць па-польску і ня бачаць ніякіх прычынаў, каб набажэнствы правіліся на іхняй роднай беларускай мове ў іхнай уласнай краіне.

Дадатковую занепакоенасьць выклікае і тое, чаму не было кансультацыяў зь беларускім духавенствам, а таксама тое, што, як вядома,ні прымас Польшчы кардынал Глемп, які адыгрываў вялікую ролю ў аднаўленьні біскупства, ні рускі праваслаўны мітрапаліт Філарэт ня маюць вялікіх сымпатыяў да беларускае мовы.

Высьвятляецца пункт гледжаньня, які дамінуе ў русіфікаванай камуністычнай партыі Беларусі. У гутарцы з журналістам адная афіцыйная асоба ў Менску казала:"дык што ж, калі каталіцкія сьвятары пачнуць весьці набажэнствы па-беларуску,то ўсе вы, пісьменьнікі і нацыяналісты, пабяжыце ў каталіцкую царкву маліцца богу. Мы негатовыя да ўмацаваньня каталіцызму на Беларусі. Няхай працягваюць маліцца па-польску. Іх засталося няшмат."

на мове міжнацыянальных зносін адбыўся

# Зьмяспоўны дыялог

па канцэптуальных праблемах разьвіцьця палескае нацыі.

На вачох спадарства Бел. фонду культуры думкамі абмяняліся спадар Мыкола Шылаговыч ды сп. Іван Чыгрынаў.







# АХВА - РЫЗМЫ

- Не было ні сыса і раптам -- Сыс!
- Лепш Пазьняк, чым ніколі!
- Цьвірка цьвіркоча, Сьвірка сьвіркоча, Камейша камячыць, Рагойша рагоча!

НАШ АДРАС: 220050, МЕНСК, АБАНЕНТНАЯ СКРЫНЯ № 224

Jaunoji Lietuva

Падпісвайцеся на новую незалежную маладзёжную газэту « Jaunoji Lietuva ». "Молодая Литва". Большасьць матэр"ялаў асьвятляе жыцьцё і дзейнасьць маладзёжных арганізацыяў Літвы, а таксама пазалітоўскія праблемы.

Адрас рэдакцыі: Вільнюс, вул.Конарскё, 37. Рэдактар Элдорадас Бутрымас.

x x x

● Нагадваем, што сабекошт нумара 50 кап. ●

За грашовыя ахвяраваньні дзякуем Уладзіміру Арлову, Міколу Папеку, БАСаўцам, "Крывічу" /г.Маладэчна/.